*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 15(331) 1-15 ЛІСТАПАДА 1997 г.**

## *Інфармацыйнае паведамленне*

26 верасня 1997 года ў Менску прайшло паседжанне Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны. Рада заслухала справаздачу Сакратарыяту ТБМ, абмеркавала моўную сітуацыю ў краіне і стан беларускага школьніцтва у 1997 годзе. Рада прыняла пастанову па актывізацыі дзейнасці ТБМ, а таксама пастанову аб аднаўленні выдання газеты "Наша слова".

## ПАСТАНОВА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ

*ад 26 верасня 1997 г.*

1. Аднавіць выпуск газеты "Наша слова" з кастрычніка 1997 г. Даручыць выданне газеты Лідскай Радзе ТБМ імя Ф. Скарыны.

2. Прызначыць в. а. рэдактара газеты "Наша слова" сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ, намесніка старшыні Гарадзенскай абласной Рады ТБМ Станіслава Судніка.

3. Даручыць фінансаванне, распаўсюджванне і рэалізацыю газеты "Наша слова" МП "Прагрэс" і МП "Шлях".

4. Ухваліць склад рэдакцыйнай Рады:
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі,
Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аматарам, руплiўцам і ахвярнікам беларускай мовы*

### Шаноўнае спадарства!

Перад вамі першы нумар адроджанай газеты Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны "Наша слова". Заснаваная ў 1990 годзе газета да пачатку 1997 года несла людзям беларускае слова. У 1997 годзе дзяржава спыніла падтрымку газеты і "Наша слова" перастала выходзіць. І вось праз паўгода мы аднаўляем выданне. Воляй лёсу і абставін зараз газета будзе выходзіць у горадзе Ліда Гарадзенскай вобласці. Мы загадзя просім прабачэння за ўсе хібы, якія будуць дапушчаны ў першых нумарах. На сёння ў газеты няма ні аднаго квадратнага метра плошчы, ні адной адзінкі тэхнікі, ні аднаго штатнага супрацоўніка, няма рахунку, няма рэдакцыйнага партфеля і ўсяго іншага таксама няма. Але за газетай ёсць горад Ліда, ёсць Таварыства беларускай мовы, а, значыць, ёсць беларускі народ. Таварыства, як і народ, перажывае не лепшыя часы і тым больш важная падтрымка гэтага народа. Мы выказваем шчырую падзяку ўсім тым, хто падтрымаў Таварыства, а, значыць, і "Наша слова". Толькі за верасень ТБМ пералічылі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| - Гродзенская арганізацыя ТБМ | 1.262.000 руб. | - Зора і Вітаўт Кіпелі | 100 доляраў |
| - Выдавецтва "Полымя" | 5.000.000 руб. | - Васіль Петруковіч | 100.000 руб. |
| - Георгій Штыхаў | 500.000 руб. | - Эдуард Яромаў | 100.000 руб. |
| - Іван Лаўчанка | 200.00 руб. | - Рада ТБМ Партызанскага раёна | 90.000 руб. |
| - Георгій Пракаповіч | 100.00 руб. | - Мікалай Гардзеенка | 300.000 руб. |
| - Ядвіга Котляр | 100.000 руб. | - Генадзь Брыль | 100.000 руб. |
| - Людміла Сідзілоўская | 50.000 руб. | - Іван Януковіч | 70.000 руб. |
| - С. Талуць | 100.000 руб. | - Таццяна Гірэль | 100.000 руб. |
| - Якаў Саракват | 300.000 руб. | - Павел Сцяцко | |
| - Мікола Грынчык | 200.000 руб. | і кафедра мовазнаўства | 1.458.000. руб. |
| - ТАА "Олцэран" | 500.000 руб. | - Гродзенская гар. арганіза- | |
| - ТАА "Хаксія" | 500.000 руб. | цыя БНФ | 620.000 руб. |
| - В. Лукашэвіч | 150.000 руб. | - Я. Матусевіч | 3.000.000 руб. |
| - Сяргей Бабенка | 100.000 руб. | - Вольга Іпатава | 300.000 руб. |
| - В. Леванюк | 100.000 руб. | - Жыхары г. Кобрына | |
| - Валянціна Яновіч | 100.000 руб. | і сельскія настаўнікі р-на | 1.830.000 руб. |
| - Валянціна Шарапава | 50.000 руб. | - Алесь Белакоз | 500.000 руб. |
| - Генадзь Валашкевіч | 50.000 руб. | - Лідская рада ТБМ | 500.000 руб. |
| - Марыя Лявонава | 100.000 руб. | - Невядомы з Ліды | 100.000 руб. |
| - Святлана Цішук | 300.000 руб. | - Ф. І. Рудніцкі | 500.000 руб. |
| - Сяргей Пракаповіч | 50.000 руб. | - А. А. Клышко | 500.000 руб. |
| - Галіна Баркоўская | 500.000 руб. | - Сямён Махнач | 100.000 руб. |
| - Л. Бастунец і калегі | 780.000 руб. | - Браніслаў Каспяровіч | 100.000 руб. |
| - Мікалай Ермакоў | 100.000 руб. | - Яўген Чэлаб | 100.000 руб. |
| - Сяргей Бярозка | 100.000 руб. | - Уладзімір Альхоўна | 100.000 руб. |
| - Антон Раманчук | 50.000 руб. | - Валеры Аліноўскі | 100.000 руб. |
| - Галіна Пархімчук | 100.000 руб. | - Л. Т. Мішына | 20.000 руб. |
| - Клаўдзія Анісава | 50.000 руб. | - С. Б. Хомва | |
| - Мікалай Усцімчук | 100.000 руб. | і настаўнікі СШ № 90 г. Мінск | 100.000 руб. |
| - Мікалай Рамакавец | 500.000 руб. | - А. М. Адамовіч | 100.000 руб. |
| - Алесь Станкевіч | 200.000 руб. | - Уладзімір Сізоненка | 200.000 руб. |

Мы спадзяёмся, што народная падтрымка Таварыства беларускай мовы не спыніцца. Для тых, хто непасрэдна хоча падтрымаць газету "Наша слова" мы можам прапанаваць толькі ***хатні адрас часовага выканаўца абавязкаў рэдактара***: 231300, г. Ліда, вул. Зарэчная, д. 5, кв. 17, Судніку Станіславу Вацлававічу.

Мы будзем удзячныя ўсім, хто захоча дапамагчы газеце, але найперш просім дапамагчы матэрыяламі, інфармацыяй з месцаў, з радаў, з гарадоў і вёсак. Матэрыялы просім дасылаць на ***адрас:*** 231300, г. Ліда-2, а/с 7, у газету "Наша слова".

Мы просім ад усіх сяброў жорскай крытыкі, каб улічваючы яе выпраўляць хібы і недахопы. І яшчэ мы просім усе рады ТБМ і сяброў ТБМ ускласці на сябе не надта цяжкі, але вельмі важны для нас абавязак — кожны месяц дасылаць у рэдакцыю інфармацыю пра тое, колькі газетаў "Наша слова" паступіла ў шапікі "Саюздруку" вашага горада і колькі засталося нерэалізаванымі. Гэтая інфармацыя вельмі важная для рэгулявання накладу і правільнага размеркавання па краіне.

Мы спадзяёмся, што з вашай падтрымкай газета адродзіцца і зойме сваё пачэснае месца сярод іншых сродкаў масавай інфармацыі.

А зараз, шаноўнае спадарства, чытайце вашую газету "Наша слова".

## ПАСТАНОВА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТБМ імя Ф. Скарыны

*ад 26 верасня 1997 г.*

Заслухаўшы і абмеркаваўшы інфармацыю аб рабоце сакрытарыята, Рэспубліканская Рада пастанаўляе:

1. Усім рэгіянальным арганізацыям ТБМ — абласным, раённым, гарадскім — правесці перарэгістрацыю да 1 студзеня 1998 г. Ажывіць работу па прыёму ў шэрагі ТБМ новых сяброў.

2. Арганізаваць работу моладзевых суполак ТБМ. Сакратарыяту распрацаваць моладзевую праграму да 1 лістапада 1997 г.

3. Рэгіянальным арганізацыям ТБМ актывізаваць работу па фінансавай падтрымцы Таварыства.

4. Прадоўжыць збор подпісаў за адкрыццё нацыянальнага універсітэта. Рэгіянальным структурам здаваць справаздачу разам з падпіснымі лістамі ў Рэспубліканскую Раду 1 раз у тры месяцы.

5. Прыняць удзел у распрацоўцы праекта Закона "Аб унясенні змен і дапаўненняў у Закон аб мовах". Рэгіянальным арганізацыям унесці прапановы да 10 кастрычніка 1997 г., сакратарыяту — да 20 кастрычніка.

6. Прыступіць да складання рэестру напісаных беларускамоўных падручнікаў для сярэдніх, сярэдне-спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў.

7. Увесці ў склад сакратарыята сп.сп. Уладзіміра Бордака, Міколу Кійку, старшыню менскай гарадской арганізацыі — па пасадзе — Аляксея Саламонава.

## БУДЗЬ, "НАША СЛОВА", БУДЗЬМА МЫ!

Адгэтуль, са дня спраўджанага, "Наша слова" белым птахам будзе прылятаць у Вашыя задумныя хаты з краю Гарадзенскага. З краю, вартаванага-беражонага вечнымі мурамі Крэва ды Наваградка, Гальшанаў ды Ліды. З краю, дзе ссівела маўчыць мудрая Каложа, скуль вышэе ў нашыя беларускія нябёсы Сынкавіцкая царква.

І, можа, "Наша слова" прыгалубяць да сябе тры мужныя, святыя жанчыны, літасціва раскрыленыя над Айчынай, — Маці Божая Жыровіцкая, Алаіза Пашкевіч (Цётка) ды Ларыса Геніюш. Бо дарогі іхнія, як зычлівыя рукі, агортваюць усю Беларусь, памкнёныя да нас ў любові ад Слоніма, Ліды і Зэльвы. Памкнёныя да нашага нацыянальнага Узнясення — Узнясення да сябе існых, сапраўдных, здатных па-свойму Жыць, Думаць, Тварыць, Гаспадарыць і Любіць. Здольных памятаць і шанаваць свой Род, што даў пачаткі і славе нашай, і гонару, і красе ў вялікім свеце людства. Род, што сплачвае і цяпер нашыя духоўныя пазыкі, што пакутуе і зараз на адрачэнскія сухоты нашчадкаў. Але мы ёсць, як былі спрадвеку. І нам наканавана вечна быць. Таму што гарэніць недзе глыбока ў нашай душы яшчэ не выказанае Слова, яшчэ не апранутая ў прыгожую беларускую аздобу магутная, пераўтваральная, адзіна-незалежная нашая думка.

Восень рахункуе набыткі і выводзіць з палону зацяжэлай матэрыі Вольны Дух. Восень нараджае Моцу сягнуць за межы таго рэальнага, бачнага ўлоння, што ўзгадавала нас, — і пашырыць свядомасць да самых краёў, да неба, схаванага ў нас саміх.

Блаславі ж нас, Жыровіцкая Божая Маці, — да гэтае чыстае зямлі нахілёная, з гэтых крыніцаў жывая і жыццятворная, нашым словам узвялічаная ды аблашчаная. Бо тут па-нашаму, па-беларуску "дзень дню пераліваe гаворку, і ноч ночы агалашае Веду". І тую гаючую Веду, занатаваную-затканую ў белым полі памяці, ускрыленую чырвоным лётам Пагоні "не разбіць, не спыніць, не стрымаць". Мы ж ёсць тут і цяпер, каб Вялікі Закон Няспыннасці, Пагоні здзейсніць.

### Малітва на чужыне да Божае Маці Жыровіцкай.

***Найсвяцейшая Дзева Марыя, нашая добрая Маці і Уладарка, выслухай нашую просьбу, скарацi дні нашае нядолі і здзеку і Нашыя цярпенні, боль душы і бяду прымі. Памажы нам перанесці гэты жыццёвы крыж выгнання.***

***Прасі Сына Свайго, Госпада нашага Ісуса Хрыста, каб паслаў нам радасць аглядаць сваймі вачыма вольную Бацькаўшчыну нашу Беларусь, жыць у ёй і працаваць Богу на славу.***

***Бо ж ты адзіна чыстая і ўседабраславёная Багародзіца, Дзева Марыя, Уладарка Беларусі, што свеціш ў Жыровічах цяпер і на вякі вякоў. Аман.***

Не здзіўляйся, уніклівы чытач: малітва на чужыне прамоўленая мусіць быць і ад цябе, укарэненага тут, на Бацькаўшчыне. Бо ўсе мы разам збязладзілі нашыя лёсы на роднай зямлі гэтак, што чужына апанавала нашыя сэрцы, што ў выгнанні чуюцца разгубленыя, растрывожаныя душы. І чужынскасць гэтую ў крэўным Краі не змаганнем адолеем, а толькі ўзрастаннем Духу. Бо ў конадзень тысячагоддзя ліхая сіла адступае і мы штодня ідзём праз ачышчэнне напрарочанага канца свету. Мы штодня ўзыходзім на праўдзівы крыж — крыж чалавечага выбару. Гэта мы, кожны з нас паасобку і ўсе супольна, "вяршым" канец свету дазваляючы нашай ніжэйшай прыродзе праяўляцца праз нас, альбо, адсланяем яго, задыхана ўздымаючыся па хісткай лесвіцы Удасканалення над прорвай хаосу. І не барацьба творыць лад — лад вырастае з глебы любові, самавартаснай ды самапаважнай. З любові няздраднай і мужнай сябе бараніць. Бо толькі Любоў прызнае перамогу — сягненне разам да Божага святла. Багдановічу было відно: "усе мы разам ляцім да зор". А ў лёце гэтым адмыкаюцца ад нас і сваркі, і звады, і боль, і горыч.

У лёце гэтым знаходзім сутную сілу жыць, любіць і тварыць. А ў змаганні супраць кагосьці выклікаем на сябе гэткае ж зацятае непрыйманне, якое дазволілі сабе самі, спрычыніўшы гвалт з чужое думкі ды пазіцыі — хай сабе і нялюдскай. Але нам не дадзена яе, гэтую думку ці пазіцыю, знішчаць, зліквідоўваць, альбо караць ейнага носьбіта. Інакш бы ў дуалістычным свеце была суцэльная бойка, а не жыццё-тварэнне. Неадменны закон самазахавання светабудовы спрацоўвае гэтак, каб не разбурэнне спараджала чалавечая прага волі, але гармонію, здатнасць усяго жывога змыкацца дзеля ладу. *Перамагаючы адно толькі самога сябе.* Спрадаўна ж усходняя мудрасць сцвярджае, што перамагчы самога сябе ёсць добрым спосабам не быць пераможаным. Устрымаць самога сябе — гэта лепшы сродак дзеля таго, каб не мець над сабой валадара.

З годнае раўнавагі ўзрастае Дух, каб асвяціць нашыя дарогі. Бо толькі раскрыццё Духу знутры нашае людскае існасці вяршыць непадманную жыццёвую дзею. Як навучымся ва ўсіх праявах нашага зямнога бытавання бачыць рух Духу, — не варажнечай сягнем шуканае і жаданае Волі, а любоўю-сатварэннем, перад якою слабымі і няўклюднымі апынаюцца тыраны. Але найперш трэба паверыць самому сабе і Божаму парастку ў сабе. Найперш трэба знайсці духоўнае апірышча, услухацца ў галасы продкаў, якім быў дадзены пакутны шанцунак ад Вышняга Розуму — бачыць скрозь час. Не прамінем жа на эпахальнай паваротцы Скарынаву падказку: "Не прасі сабе шматлікіх дзён жыцця, ані багацця, ані паразы ворагаў тваіх, але жадай сабе мудрасці". А мудрасць, што точыцца жывой вадой з вякоў гісторыі нашай, раіць: ісці поруч з Купалам, Багдановічам, Караткевічам і спавядаць па-Купалаўску — "ў народ і край свой толькі веру. І веру ў самаго сябе..."

На гэтай згоранай зямлі
шляхі спрадвечныя прайшлі.
Уладары мы тут? Рабы? —
Нам Узрастаць, Мацнець і Быць.

На гэтай птахавай зямлі
званы ўваскрошана ўзгулі,
архангел вешча затрубіў,
каб нам Узвысіцца і Быць.

На гэтай зміранай зямлі
сляды прадзедавы ўзышлі —
сляды нязморнае сяўбы.
Каб нам ступаць на іх і Быць.

Нас на Купалавай зямлі
пуціны Божыя звялі.
Каб не сысці адчайна ў глыб —
каб тут Адважна, Годна Быць.

На гэтай сонцавай зямлі
вякі прамудрыя плылі...
Лёс ліхаманна церабіў,
каб узмужняцца нам і Быць.

***Антаніна Хатэнка***



*Янка Купала*

### Ворагам Беларушчыны

Чаго вам хочацца панове?
Які вас выклікаў прымус
Забіць трывогу аб той мове,
Якой азваўся беларус?

Чаму вам дзіка яго мова? —
Паверце вашай ён не ўкраў,
Сваё ён толькі ўспомніў слова,
З якім радзіўся, падрастаў.

Цяпер і вы загаварылі,
З апекай выйшлі, як з зямлі.
А што-ж дагэтуль вы рабілі?
А дзе-ж дагэтуль вы былі?

Ваш брат і цёмен, і галодны;
Хацінка свой зжывае век;
І век не знаў ён дум свабодных,
І крыўдзіў свой брат-чалавек.

Вам страшна нашай слёзнай песні,
І жальбы страшна вам глухой?
Вам жутка сонца на прадвесні?
Мілей вам холад з цемнатой?

А што ж вам беларус такога
Пасмеў зрабіць, пасмеў сказаць?
Эх, трэба ўчыць яшчэ вас многа,
Як свайго брата шанаваць!

Эх, кінце крыўдамі карміцца —
Кожны народ сам сабе пан;
І беларус можа змясціцца
Ў сям'і нялічанай славян!

Напасцяй, лаянкай напраснай
Грудзей не варта мазаліць —
Не пагасіць вам праўды яснай:
Жыў беларус і будзе жыць!

Не столькі "хамскія" натуры
На карках вынеслі сваіх!
І свіст даношчыкаў пануры,
Паверце не запудзіць іх!

К свабодзе, роўнасці і знанню
Мы працярэбім сабе след!
І будзе ўнукаў панаванне
Там, дзе сягоння плача дзед!







# Тэарэтык беларускай нацыянальнай ідэі



*Вацлаў Ластоўскі*

8 лістапада спаўняецца 114 гадоў са дня нараджэння віднейшага дзеяча беларускага нацыянальнага руху, тэарэтыка беларускай нацыянальнай ідэі, адказнага сакратара "Нашай нівы", прэм'ер-міністра Беларускай Народнай Рэспублікі, аднага з першых акадэмікаў Акадэміі навук Беларусі, гарачага патрыёта, таленавітага пісьменніка і актыўнага грамадскага дзеяча Вацлава Ластоўскага.

Нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі ў сям'і Юстына і Ганны Ластоўскіх у засценку Калеснікава на Дзісеншчыне. Пачаткі пісьменства засвоіў дома, а ў 1894 годзе ўжо скончыў парафіяльную школу ў Старым Пагосце. Папрацаваўшы хлопчыкам на паслугах у адной віленскай віннай краме, юнак перабіраецца ў Пецярбург, дзе ўладкоўваецца бібліятэкарам у прыватную студэнцкую бібліятэку і "зайцам" наведвае лекцыі Пецярбургскага універсітэта, бо плаціць за навучанне не меў чым. У 1902 годзе 19-гадовы Ластоўскі стаў сябрам Польскай сацыялістычнай партыі Летувы і Беларусі. У 1906 годзе Ластоўскі ў Рызе спрабуе здаць экстэрнам іспыты на атэстат сталасці, але "зрэзаўся" на расейскай мове. Так і застаўся будучы акадэмік без дыплома і нават без хоць якога атэстата. У тым жа 1906 годзе Вацлаў Ластоўскі пакідае Польскую сацыялістычную партыю і пераходзіць у Беларускую сацыялістычную грамаду. Гэты пераход паспрыяў таму, што Ластоўскі з'яўляецца ў Вільні ў рэдакцыі "Нашай нівы".

Толькі праз паўгода з'яўляецца першая публікацыя Ластоўскага. 19 лістапада 1909 года "Наша ніва" друкуе яго першае апавяданне-абразок "Нарадзіны", а ўжо з 1 студзеня 1910 года распачынае друкаваць яго "Кароткую гісторыю Беларусі". А хутка "Кароткая гісторыя Беларусі" выходзіць асобным выданнем у друкарні ўсё таго ж Марціна Кухты.

Рэдактарам "Нашай нівы" стаў Купала, а Ластоўскі фактычным уладальнікам "Беларускай кнігарні". Ён кантралюе выданне беларускіх падручнікаў і чытанак для дзяцей.

Расейскія ўлады перад падыходам немцаў у 1915 годзе забараняюць выданне "Нашай нівы". Частка нашаніўцаў пакідае Вільню. Ластоўскі застаецца. І ўжо на акупаванай тэрыторыі ладзіць беларускія школы, выдае падручнікі, узначальвае газету "Гоман". У гэты час Ластоўскі ўваходзіць у палітыку, становіцца ідэолагам "Сувязі незалежнасці і непадзельнасці Беларусі". Ідэяй Ластоўскага — "мы хочам быць незалежныя ў сваіх этнаграфічных межах" кіраваліся беларускія дзеячы, склікаючы 25-27 студзеня 1917 года ў Вільні канферэнцыю беларускіх арганізацый, дзе ўтварылі віленскую Беларускую раду начале з Антонам Луцкевічам.

Роўна за тыдзень да абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі Вацлаў Ластоўскі быў кааптаваны ад Віленскай Беларускай рады ў склад Рады БНР, якая на паседжанні раніцою 25 сакавіка 1918 года прыняццем трэцяй Устаўной граматы абвясціла незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

У гэты час Беларусь ледзь не кожны месяц пераходзіла з рук у рукі, дзялілася, уз'ядновалася, акупавалася і акупавалася іншымі. Раскалолася Беларуская сацыялістычная грамада. Вацлаў Ластоўскі вясной 1919 года ўваходзіць у Беларускую партыю сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

14 снежня 1919 года народная рада БНР, пацьвердзіўшы вернасць трэцяй Устаўной грамаце ад 25 сакавіка пра абвяшчэнне поўнай незалежнасці Беларусі, тым самым адкрыта выказаўшы пратэст супраць польскай акупацыі, абрала новы прэзідыум і кабінет. Прэм'ер-міністрам становіцца Вацлаў Ластоўскі. Абвешчаная праграма Народнай рады бескампрамісная і ўсеагульная партызанская барацьба супраць польскіх акупантаў. Гэта не прайшло незаўважаным. Праз тры дні прэм'ер і частка ўрада аказалася за кратамі.

Праз месяц з лішкам палякі вызваляюць Ластоўскага, а затым дэпартуюць за межы Беларусі. Ластоўскі едзе ў Рыгу, але па патрабаванні польскіх уладаў Латвія аб'яўляе яго persona non grata. Ластоўскі пераязджае ў Коўна. Ластоўскі падтрымлівае далучэнне да Летувы часткі Беларусі, верачы, што пазней з летувісамі будзе разабрацца прасцей чым з палякамі і бальшавікамі. Пра Беларусь загаварылі ў Еўропе. Ластоўскі наведвае ў 1920-1923 гадах Бельгію, Германію, Ватыкан, Італію, Чэхаславакію, Францыю, Швейцарыю. Усюды прэм'ер выступае, як беларус і ад імя Беларусі.

Ластоўскі муляў вока і Маскве, і Варшаве, і Менску. Па змове ўладаў БССР і сацыялістаў з урада БНР Ластоўскі вымушаны быў пакінуць пасаду прэм'ера БНР.

Ластоўскі вяртаецца ў Коўна і пачае выдаваць часопіс "Крывіч". У 1926 годзе выходзіць яго "Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі".

Увосень 1926 года Інбелкульт запрашае Ластоўскага на акадэмічную канферэнцыю па праблемах рэформы беларускага правапісу. Ластоўскі выступае тут катэгарычным прыхільнікам кірылічнага шрыфту.

Вясной 1927 года Ластоўскі пераязджае ў Менск. У Менску Ластоўскаму прапанавалі пасаду дырэктара Беларускага дзяржаўнага музея і загадчыка кафедры этнаграфіі пры Інстытуце беларускай культуры. Ён працуе і ў "Камісіі жывое беларускае мовы".

Але. 29 кастрычніка Ластоўскага здымаюць з пасады неадменнага сакратара Беларускай Акадэміі навук. 21 ліпеня 1930 года арыштоўваюць. Праз дзесяць месяцаў турмы высылаюць на 5 гадоў у Саратаў. Ён уладкоўваецца на пасаду загадчыка Аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Саратаўскага універсітэта.

Але. 20 жніўня 1937 года Вацлаў Ластоўскі паўторна арыштаваны, а 23 студзеня 1938 года, "як агент польскай разведкі і ўдзельнік нацыянал-фашысцкай арганізацыі" асуджаны да вышэйшай меры і ў гэты ж дзень расстраляны на радзіме Мікалая Чарнышэўскага ў горадзе Саратаве.

***Поводле Язэпа Янушкевіча.***

# Родная мова

**ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ**

Кожны народ гаворыць пра дабро і зло сваёй мовай, і гэта яго права, бо мова — гэта плод геаграфічных і гістарычных варункаў народа, яго звычаяў і абычаяў.

І болей: мова кожнага асобнага народа — гэта сума перажыванняў, сума душ яго жывых і даўно адышоўшых ў вечнасць пакаленняў.

Родная мова — гэта мільёны жывых клетачак мозгу, унаследаваных чалавекам ад папярэдзіўшых яго пакаленняў, мільёны перажыванняў красы, дабра і зла, згукаў і форм, несчыслёнае багацце душы, каторае адкрываецца толькі пад дотыкам тых самых згукаў, каторыя нарадзілі іх калісь у душах далёкіх пакаленняў.

Родная мова — гэта музыка душы, каторай Найвышні Стварыцель адарыў чалавека, гэта натуральны фундамент, на каторым чалавек павінен будаваць дом сваей сілы духоўнай, свайго розуму, пачуцці дабра і зла, справядлівасці і крыўды, красы і брыдзі.

І гора таму, хто паднімае руку проці законаў, напісаных у кнізе Жывата рукою Стварыцеля. Падобен ён да таго неразумнага чалавека, каторы будуе дом свой на пяску: спадзе дождж, і пацякуць воды і зрыюць яго будоўлю.

Будуйце дом сваёй мудрасці, палацы душы сваёй на скале, каторай ёсць родная мова.

Душа без роднай мовы — гэта кветка без каранёў, гэта разбітая скрыпка, пусты дом, напоўнены трупамі.

Душа жывога не павінна быць гробам пабяляным, каторы панадзен зверху, а ўсярэдзіне повен гнілі, але павінна быць домам радасці, у каторым грае музыка напеваў калысных вашых матак і бабак і жыве сіла дзядоў і прашчураў.

Родная мова чаруе душу, і душа рвецца да яе, бо яна калыска душы, гордасць і імя народа.

Сыны Народа павінны любіць і шанаваць яе, бо адна яна жывая крыніца нашага розуму, пачуццяў і семя душы нашай, яна чароўны лек і аружжа проці смерці. Толькі яе чароўная музыка мае сілу будзіць душы памёршых нашых дзядоў і адкрыць перад намі бесконцасць перажыванняў тых, каторыя радзілі нас і адышлі ў вечнасць. Іх душы жывуць у мільёнах нашых мазгавых клетак, у фібрах душы і ажываюць толькі пад гудзьбу згукаў роднае мовы.

Родная мова наша для нас — гэта музыка ўсіх пачуццяў, якія перажываў народ наш: яго болесцяў і радасцяў, голас яго сэрца і святло яго розуму.

Але як жа адкрыецца перад намі сезамская скарбіца, калі ключ да яе, наша мова, або папсован, або загублен намі? Як жа мы дабудзем укрытыя ў душы нашай скарбы, каторыя субіралі і акуплялі цаной жыцця і жыццёвай практыкі нашы бацькі? Як дабудзем тыя несчыслёныя багацці мыслі, паэзіі і перажыванняў бацькоў нашых, калі мы забыліся або сказілі слова, што выклікае іх?



ВЛАСТ.

КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ

З 40 РЫСУНКАМІ

ВІЛЬНЯ.

Друкарня Марціна Кухты

1910.

*Тытульны аркуш першай кнігі Вацлава Ластоўскага*

І як мы выкажам аздобнасць душы нашай і скуль возьмем аружжа і сілу ў змаганні за жыццё народа, калі чароўная скрыпка, мова наша, папсавана?

Мала Сынам Народа прызнаваць права на жыццё нацыянальнай душы — мовы. Гэтага не адмовяць нам і чужынцы.

Ад Вас, Сыны Народа, вымагаецца болей: Вы павінны быць лепшымі! Вы павінны будзіць душу сваю і шукаць ключа да несчыслёных скарбаў, бо вы правыя наследнікі бацькоў вашых, а не байструкі і падкідышы.

Вы павінны вучыцца роднай мовы, старацца разумець усе адценні чароўнай яе музыкі, павінны ачышчаць яе ад злога зелля, каторае пасеяў на ніве нашай благі чалавек, калі работнікі, патомленыя днеўнай працай, спалі ўночы.

Кожны беларус павінен, болей чым іншыя народы, старацца ачышчаць родную мову ад чужых слоў і зваротаў, бо найміты цемры шукаюць душы нашай, каб забіць яе, і затручаюць атрутай крыніцы, скуль п'е душа наша.

Сапраўды, хто перасыпае родную мову сваю чужымі словамі — не мае права казаць, што ён любіць яе.

А хто не знае роднай мовы, не годзен называцца Сынам Народа.

**1914 год**

# Браты Каліноўскія і беларуская нацыянальная ідэя

Блізяцца 135 угодкі нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. У розны час і па рознаму трактавалася гэтая постаць. Бальшавікі, нават нацыянал-бальшавікі прыпісвалі яму словы: "Сякера паўстанца не павінна спыніцца нават над калыскай шляхочага дзіцяці." У Жыровіцкай семінарыі Каліноўскага іначай, як Вікенціем, не называюць і падаюць семінарыстам, а праз іх і вернікам, як злейшага ворага праваслаўя, які вынішчаў праваслаўных святароў. Свядомая частка беларускага грамадства шануе Каліноўскага, як нацыянальнага героя, а афіцыйныя ўлады пастараюцца па магчымасці замаўчаць і паўстанне, і Каліноўскага, або падаць яго, як польскае паўстанне на Беларусі.

Ні для кога, хто блізка знаёміўся з дакументамі паўстання, не з'яўляецца таямніцай, што рухальнай сілай паўстання была шляхта, шляхта ў большасці сваёй каталіцкая. Не з'яўляецца таямніцай, што ў Пецярбургскіх гуртках, дзе ішла ідэалагічная падрыхтоўка паўстання, гаворка вялася на польскай мове, сяды-тады на расейскай, але не на баларускай. З гэтага робіцца выснова пра польскі і антыправаслаўны характар паўстання. Разам з тым усім выдатна вядома, што першая і адзіная на Беларусі нелегальная газета, рупар паўстання, называлася "Мужыцкая праўда", друкавалася лацінкай, але на добрай беларускай мове. Выдавалі гэтую газету ўсё тыя ж каталіцкія шляхцюкі Каліноўскі, Ражанскі, Урублеўскі.



*Пецярбург. Публічная бібліятэка імя М. Салтыкова-Шчадрына. Тут спела нацыянальная самасвядомасць Віктара Каліноўскага*

А зараз паглядзім, наколькі ўсё гэта важна. Можа дастаткова тога, што змагаліся ўсе яны супраць акупанта, за незалежнасць, і не важна, якая там была вера і мова. "За нашу і вашу свабоду" і ўсё.

Можа і так, але справа ўся ў тым, што нават пастаноўка такога лозунга на той момант — нацыянальны вычын. Давайце глянем на стан тога краю, які мы зараз завём Беларуссю, перад 1863 годам. Вялікае Княства 70 гадоў як не існуе. Літвой называюць Жмудзь. Тут Паўночна-Заходні край без усялякай нацыянальнай адметнасці. Людзі называюць сябе "тутэйшымі". Слова "нацыянальнасць" не разумеюць. Спрадвечная рэлігія забаронена. Сялян сілай перагналі ў праваслаўе. Шляхта пашылася ў каталіцтва. Народ без назвы, без волі, без мары, падзелены ўздоўж і поперак.

Засталася адна толькі памяць.

За гэтай памяццю не было нічога. Проста памяць, лічы, на генетычным узроўні. І вось яна пачынае прачынацца. Так, мабыць, наканавана нашаму нороду, каб на бітву за свабоду і за кавалак хлеба яго вялі паэты, чыё прызначэнне на гэтай зямлі павінна быць зусім іншым.

У сярэдзіне 19-га стагоддзя з'яўляюцца першыя творы на "мужыцкай" гаворцы. Ян Чачот, Сыракомля, Ян Баршчэўскі, Вінцук Дунін-Марцінкевіч. Яны не выклікалі асаблівай занепакоеннасці ўладаў: Казкі, фальклёр, лапці. Але гэтыя лапці аказаліся той дзірачкай у грэблі, праз якую вада сочыцца-сочыцца, ды як хлыне. Тады не было радыё, тэлевізара. Кожны прыходзіў да нацыянальнай ідэі сам.

З Каліноўскіх першым усвядоміў сябе беларусам старэйшы, Віктар. Займаючыся з раніцы да вечара ў публічнай бібліятэцы, ён, мабыць, зусім нечакана для сябе адкрыў, што ў старыну дзяржаўныя дакументы пісаліся не па-расейску і не па-польску, а на крывіцкай мове, на той мужыцкай мове, на якой спрабуе пісаць гэты дзівак Марцінкевіч. Віктар адкрывае, што рукапіс, у якім апісваліся межы паміж Літвой і Польшчай і які лічыўся польскім, на самай справе напісаны крывіцкай (беларускай, як у Марцінкевіча, падкрэслівае Віктар) гаворкай. Віктар ужо ведае, што і Статут Вялікага Княства Літоўскага напісаны той жа мовай і шмат іншых кнігаў. Ён чуе за старонкамі галасы Радзівілаў, Сапегаў, Буднага. І слова "Беларусь" з'яўляецца ў лексіконе малодшага Каліноўскага. Яны размаўляюць у пецярбургскіх салонах па-польску, але паміж сабой па-простаму, зараз гэта значыць па-беларуску. І векавечнае ліцвінсае самаразуменне прачынаецца, дакладней, набывае рэальны беларускі змест. Беларусь — гэта новае слова, гэта зусім новая краіна, гэта краіна, якой яе выпеставалі ў сваіх марах маладыя патрыёты. І чым часцей гучыць слова Беларусь, тым далей ідуць у сваіх памкненнях браты Каліноўскія і блізкая ім баларуская моладзь. Каліноўскія бачаць тры сілы на Беларусі, на якія можна разлічваць: сяляне, якія памятаюць яшчэ, што некалі было значна лягчэй; вернікі ўніяцкай царквы забароненай у 1839 годзе, а гэта фактычна ўвесь народ; тыя хто захаваў беларускую мову, а гэта перш за ўсё новая інтэлігенцыя, якая толькі пачынае падымацца, гэта тыя ж сяляне, гэта дробная і сярэдняя шляхта. Фактычна па ўсіх трох напрамках Каліноўскія бачаць сялян. І хоць асабліва Віктар разумее, што якраз, менавіта, сялян і будзе цяжэй за ўсё падняць, рамантызм Кастуся перамагае. Моладзь пачынае працаваць на селяніна. Нацыянальная ідэя перайходзіць у практычную плоскасць. Сутыкнуўшыся з супраціўам багацейшага панства, якое можа быць польскім, можа быць расейскім, але багаццем сваім не паступіцца, Кастусь з маладой гарачнасцю ставіць іх на адну дошку з акупантамі "...Ад Маскаля й паноў няма чаго спадзявацiся, бо яны ня вольнасьці, а глуму й зьдзірства нашага хочуць..." Сітуацыя для Каліноўскага і яго паплечнікаў была вельмі складаная. Падняўшы сцяг нацыянальнай ідэі яны ідэалагічна супрацьпаставілі сябе польскаму руху. І, хоць у тактычным плане ішло супрацоўніцтва, доўга яно трываць не магло. Задачы паўстання на Беларусі пачалі рэзка розніцца ад



*Кастусь Каліноўскі*

такіх жа задач у Польшчы. У жніўні 1863 года прыхільнікі Каліноўскага адлажыліся ад Польшчы і ўзялі кіраўніцтва на Беларусі і Летуве ў свае рукі. Ад гэтага моманту барацьба перарасла ў чыстую фазу беларускага нацыянальна-вызвольнага паўстання. Ад гэтага моманту ўсе шыльды на паўстанне, як на польскае, з'яўляюцца фальшывымі. Паўстанне стала чыста беларускім, хоць саюзніцкія адносіны з палякамі захоўваліся.

Каліноўскі зрабіў тое, што потым шмат разоў спрабавалі паўтарыць. Пад час народнага ўздыму ён вынес наперад менавіта нацыянальную ідэю. Паўстане пацярпела паразу. Яно было наканавана на паразу, бо вайсковая машына Расеі, хоць і атрымала моцнае вытненне ў Крыме, але была непараўнальна мацнейшай за разрозненыя аддзелы інсургентаў і касінераў. Але, калі б паўстанне было разгромлена, а сцяг нацыянальнай ідэі не быў падняты, мы гаварылі б сёння пра яго, як пра шляхочы бунт, ды ў дадатак яшчэ польскі.

Каліноўскі не паспеў правесці, спланаваную на вясну 1864 года ўсеагульную сялянскую мабілізацыю. Невядома ці яна ўдалася б. Гісторыя не любіць здагадак. Важна правільна ацаніць хаця б тое што ўдалося. Удалося сказаць беларусу, што ён чалавек і не горшы за іншых. Тое ж мы гаворым і сёння. Без нацыянальнай ідэі і сёння палітыка — не палітыка. Максімум на што яна тады цягне — гэта на каўбасны бунт.

***Усяслаў Война.***

Антаніна Хатэнка



# ТРЫ КАРАЛІ

*Прыпавесць*

I

Штоночы я падаю ў зыбучую цішыню стамлёным гукам вечаровага звону. Падаю і растаю. Штозолку я ўзыходжу ў белы расхрыстаны свет абуджаным гукам вечавога звону. Я ў дарозе. Між раніцай і вечарам, між учора і заўтра, між явай і мрояй. Я — тонкая ніціна вечавога звонавага голасу, што ходзіць-бруіць жывою вадою эраў у празрыстай прасторы ўсяленскага быцця. Я ў дарозе, якой няма супыну і спачыну. Каб нешта адкрыць-уведаць, на нешта быццам знянацку натрапіць, каб набываць і страчваць, пазнаваць і забывацца, абмінаць і ляцець настрэчу. Я ў дарозе...

Згадваецца, як вясковыя кабеты пацешна тлумачаць сваім дзеткам: "Вось калі ты быў яшчэ ў дарозе, я ўжо чакала цябе і любіла". Згадваецца гэтая немудрагелістая формула: мы сыходзім сюды, на зямную ніву ўзрастання, з таемнае дарогі. І апынаемся зноў у дарозе. Бо толькі дарога вядзе. А зблуджвае бездараж.

II

...Прыпыняю хаду на старой крывіцкай дарозе, пад сцішэлым полацкім звонам — і слухаю нікім не занатаваную прыпавесць гэтага дзіўнага Краю, ці яшчэ не памерлага, ці яшчэ не народжанага... Краю нязбытнай балючай мяжы...

Выпраўляў некалі Нябесны Розум — бацька ўсяго існага — трох Каралёўладнікаў у Краіну Стаптанага Шляху. Наказваў ім зладаваць дарогу і вывесці людства з паняменння-зацямнення. І была дараваная тром Каралям воля самім знайсці Сардэчныя Сцяжыны, зблуканыя ў руху да Стаптанага Шляху, здранцвелага пад дзікім чужым нашэсцем.

Праляцеў Першы Кароль над змоўклымі абсягямі, падумаў ды вырашыў: трэба збудаваць тут велічны храм і заклікаць у яго ўсіх на лучнасць з Богам — тады і адкрыецца схаваны Шлях.

Марудна і пакутна будаваў Кароль узвышаную бажніцу. Бывала, адступаўся. Злаваўся на сваю адзіноту, на вострыя шурпатыя камяні, што абдзіралі да крыві рукі, на цемру, якая няўмольна крала ад працы час, але Кароль меў мэту — і гэта надавала яму дужасці... Калі храм узнёс купалы ў святочны блакіт свету, кароль сазваў зняверaных людзей і абвясціў, што тут, у зямным станішчы Бога, яны пачуюць шчасце. Але міналі дні, гады, а храм стаяў пусты, бязлюдны, пакрыўджаны на сваю непатрэбнасць. І людзі па-ранейшаму корпаліся ў сваіх будзённых закутках, не шукаючы ратунку. Людзям проста не думалася, што бывае жытка інакшая. Яны забыліся пра Стаптаны Шлях, — яны самі здратавалі-стапталі яго, Шлях адзінства з продкамі, наступнікамі Бога, Шлях, асвечаны радасцю. Утапталі і адракліся.

І Першы Кароль зразумеў: прасвятляе не храм, а дарога да яго. Прасвятленне спее ў душы, дзеля ўзыходжання.

Другі Кароль, пасланы Нябесным Розумам, не намагаўся нічога выбудоўваць і ствараць. Ён прыйшоў да зморанага, заспанага люду і ўрачыста паабяцаў вышукаць ды панішчыць усіх ворагаў, што не даюць заможна, згодна жыць. Знясіленыя ў блуканнях пакорнікі паверылі. Яны лёгка адпрэчылі ўзведзены храм ды ўладавалі на пляцы гуллівы баль у знак немінучай перамогі над ворагам. І ў варажнечы ды высочванні ўсе насалодна затоптвалі апошнія прыкметныя сляды на спрадвечным Шляху, які трэба было ажывіць. Людзі ўзахліп, надрыўна піравалі, выракаючы Край на заўтаршні голад, але ўсяму свету агалошвалі, што яны з дарагім Каралём яшчэ шыкоўна зажывуць у харомах-палацах — вось толькі расправяцца са зламыснікамі ды ліхадзеямі.

Нябеснаму Розуму стала відно: два першыя Каралі-пасланцы не вытрымалі выпрабавання, зблукалі ў дарозе. Аднаго ён заклікаў назад — мацнець духам, а другому даў волю самому выкарасквацца з улады Чарнабога. Цяпер надзея была толькі на Трэцяга, малодшага, Караля, які заўжды цешыў сваёй праніклівасцю. Можа, ягонае сэрца адчуе ўзлёт Стаптанага Шляху...

Прышэсце трэцяга Караля ніхто і не прыкмеціў. Бо ён нічога не абяцаў, нікуды не клікаў і не кідаўся ў бойку з ворагам. Яго нібыта і не было. проста сваёй нябачнай прысутнасцю, сваёй вераю ў гэты згорблены народ, сваёй любоўю да краіны, дадзенай яму ў валоданне, ясны Кароль абудзіў змарнелую надзею.

Адышла варажнеча, і з ёю сплыў чорны з'едлівы страх. Людзі адчувалі ў сабе саміх высокае неба, чыстае і шчодрае. Людзі спамянулі, што яны ўмеюць працаваць, лёгка, акрылена, шчасліва. Працаваць, як дыхаць, як спяваць, як марыць. Як любіць. Не чакаючы адплаты, а таму толькі, што радасна тварыць, ляпіць рукамі і розумам нешта сваё, табой ажыўленае і табе належнае. Да людзей вярнулася памяць жыцця. Людзей асвятліла вера — не, зусім не ў добрага адзінага Караля. Вера ў сябе творцаў, сябе недарэмных у дарозе, не зблуджаных... Адплата гэтаксама прыйшла — людзі сталі яе вартымі.

А Кароль, здавалася ж, анічога не рабіў — не выдаваў новых законаў, не правяраў, як робяць і як спяць краеўцы. Не караў і не літаваў. Не каваў зброі і не чакаў сябе ўхвалаў. Кароль толькі думаў — хораша, цёпла думаў пра жывое сэрца народа, што не змоўкла ў панявердцы. Што ўпарта штурхала гарачую кроў любові ў застылыя дні. І думка дзеіла цуд.

Людзі спыніліся віжаваць адзін за другім і з палёгкай развіталіся з Другім Каралём-бунтаром.

Людзі прыйшлі да храма і падзячылі Першаму Каралю за гэты шчыры дар. Але цяпер іх прывяла дарога, не падуладная нікому ў свеце, акрамя сэрца — маленькага чалавечага сэрца, компаса ў дарозе. Людзі не кланяліся Трэцяму, мудраму, Каралю, не насілі яму шчадротаў. Бо ён жыў цяпер у кожным з іх. Кроплямі святла жыў, вагніста рассыпаны ў прасторы і часе. І тыя ахвярныя кропелькі запаленыя з каралёвай смерці дзеля новага жыцця, наскрозь прасвятлялі мінучасць і будучынь. Кропелькі трымцелі свечкамі ў Божым целе — Зямлі — і ў людскіх душах, мацуючы Тонкі Мост праз дарогу.

...Краіна выправілася ў дарогу. Краіна пазнвала сябе.

III

Памятае гэтая прыпавесць быўшчыну ці прарочыць наступнасць — хто ведае. Але праўда тое, што ўсе мы ў дарозе. І дарога будзе губляцца, кружляць у гушчарах датуль, пакуль не дазнаемся, хто ж такія мы самі, дзеля чаго прыйшлі сюды, да гэтае не зразумелае пакручастае дарогі. Бо, не адкрыўшы саміх сябе, і людзям наезджым, гасцявым няма чаго распавесці-паказаць. Хіба што ўтравелыя бальшакі ды зруйнаваныя палацы, дзе прадаўна сціхла жыццё. Дый гэтыя памятлівыя жыццёвыя раўчукі — пуцявіны Айчыны, гэтыя разбураныя княжыя гнёзды — замкі, некалі велічныя, прыцягальныя, таксама трэба ўмець прачытаць, як старажытныя пісьмёны. Трэба ўмець выслухаць голас іхніх прыпыненых сэрцаў.

А мы ж пакуль ідзём па дарозе адчужанай, не падатнай да нашых ног ды нашае хады. Мы пакуль не надта каб самі верылі ў роднасць, сваяцкасць нашую з дарогай, якую суджанна адолець. На Бацькаўшчыне, дзе кожная былінка гаворыць ад імя вякоў, мы пакуль пачуваемся ў лепшым выпадку цікаўным прышлым вандроўнікам, якому няўцям, навошта і чаму тут усё ўзнікла не падобным да іншых земляў. Яшчэ часцей успрымаем якуя-кольвеч гістарычную інфармацыю, як дэкарацыі да невясёлага сённяшняга спектакля: дзея скончыцца, і дэкарацыі прыбяруцца, нікому болей не патрэбныя. Між тым, дзея не завяршаецца. Па законах сусветнае зладнасці мы нараджаем тут дзяцей, гадуем, вучым іх будаваць свае лёсы і гаспадарыць надалей, калі самі сыдзем у свет іншы. Гэтак бясконца — з Першым, Другім, ці Трэцім Каралём — складаецца народная доля, быццам не залежна ад нас, а запраўду намі снаваная ды вытканая. І нашая цяперашняя роля нібыта абыякавых сузіральнікаў — далёка не абстрактная і бяскрыўдная. Бо ні што гэтак не парушае лад, як чужасць, адхіленасць. Бо царуе ўнутры нас той чарнабожы Другі Кароль-разбуральнік, які сіліцца нешта стварыць за кошт знішчэння. За кошт перамогі над іншадумцамі. Аднак жа толькі не падобнасць, рознасць, памкнёная да зліццяеднасці, спараджае новы віток свядомасці і бытавання: жанчына і мужчына, ноч і дзень, пачатак і скон.

І нашая, беларуская, непадобнасць да іншых народаў, нашая адметная самабытнасць, яшчэ не ўшчэнт запарушаная бязлітасным снегам адцуранскіх часоў, пакуль што ціхмяна паслугуе ўсяленскай эвалюцыі. Таму не варта жывымі лезці ў труну і змірэнна прымаць смерць: маўляў, можа і была калісь нейкая нашыя, адрозная ад рускіх ці палякаў, але сцерліся тыя рысы бясследна. Аднак, ніякага атаясамлення сябе з усходнім ці заходнім суседам у самага затурканага насельніка нашае паўміфічнае Краіны не адбылося. Недзе ў глыбіннай падсвядомасці, у цёмных лёхах спадчыннай памяці варушыцца нічым, здавалася б, не абгрунтаваная, ды непераможная ўпэўненасць: я ёсць беларус. І менавіта яна, гэтая загадкавая ўпэўненасць, да струхлення пабітая моллю нашае вонкавае расейкасці, ратуе этнас ад бясследнага канання. Зрэшты, нічога ў свеце, навогул не прападае, не пазначыўшы тут сваю бытнасць якім-ніякім следам — хай сабе і скамянела-ўтаптаным у суровы дол гісторыі. Нейкі мудры закон, таемны, недасягальны для нашага матэрыялістычнага здумлення, распараджаецца гэтак празорана, каб усё — народжанае і ўмерлае — паслугавала агульначалавечаму шляху ў Даскаsuccналасць. І нават войны, катастрофы, эпідэміі — найперш урок, навучання праз боль і страту, праз пакуты Стаць Сапраўднымі, адпаведнымі Божай задуме. Стаць Каралямі сваіх лёсаў.

Як глянуць на векавечную нашу дарогу, распрасцёртую ў знямозе між Захаду і Усходу, скалечаную, парэзаную шаблямі векавых сутычкаў-бойкаў, — прыходзіць думка пра Выбранасць гэтае белае зямлі, зямлі чысціні і згоды. Не пра выбранасць караляваць над іншымі, не! Пра надзвычайную долю абранасці — не крывёю і адабранымі жыццямі здабываць Святло, якое павінна ўзысці ў кожнай душы і кожнай жывой клетачцы Краіны, а душэўнаю пакораю і любоўю. Але за што мы тады клянём адно другога замест таго, каб разам, суладна працаваць, пераўтвараючы Край у валадарства Трэцяга Караля — караля Волі? Навошта слепімся прывідным святлом хлусні, калі трапеча ўнутры нашых храмаў-душаў існы прамень Узыходжання, Узвышэння?!

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## Міга.

Калі людзі ківаюць галавой ці махаюць рукамі — гэта замяняе ім словы. На дарогах аматары "аўтастопа" падымаюць руку і іх разумеюць без словаў.

Значыць можна размаўляць без словаў?

Глуханямыя размаўляюць пры дапамозе пальцаў, на мігах, і кожная міга ў іх абазначае слова ці літару.

У сваім лісце да пісьменніка Сяргеева-Цэнскага Максім Горкі распавядаў пра мітынг глуханямых:

"Гэта нешта жудаснае і д'ябальскае. Уявіце толькі: сядзяць безгалосыя людзі і безгалосы чалавек з эстрады робіць ім даклад, паказвае незвычайна хуткія нават шалёныя пальцы, а яны раптам пляскаюць у ладкі. Калі ж скончыўся мітынг і яны ўсе бязумоўна загаварылі, паказваючы адзін другому розныя дулі, тут ужо я ўцёк".

У тэатрах паказваюць спектаклі-пантамімы, дзе размаўляюць мімікай і мігамі, але кожны рух там зразумелы, таму што яго можна замяніць словам.

Калі мы хочам сказаць "не", круцім галавой злева направа. Разам з тым у балагарў усё наадварот. Яны круцяць галавой на "так" і ківаюць на "не".

Калі мы хочам сказаць "там" ці "туды", мы паказваем пальцам. У нас для гэтага нават асаблівы размоўны палец ёсць, які так і называецца "указальны".

Калі мы вітаемся, мы кланяемся. Мы ківаем галавой, мы пацiскаем плячыма, мы разводзім рукамі, мы хмурым бровы, мы закусваем губы, мы пагражаем пальцам, мы стукаем па стале, мы тупаем нагой, мы махаем рукой, мы хапаемся за галаву, мы прыціскаем руку да сэрца, мы распрасціраем абдымкі, мы працягваем руку, мы пасылаем на развітанне паветраныя пацалункі, мы, калі яшчэ не зусім дарослыя, паказваем язык, круцім пальцам каля скроні, падміргваем і крывім твар.

Такім чынам атрымоўваецца цэлая размова, у якой мігацяць мігі і няма ніводнага слова.

Пад час другой сусветнай вайны, калі Парыж быў заняты немцамі, нарадзілася новая міга. Лонданскае радыё якое з небяспекай для жыцця слухалі па начах парыжане, параіла ўсім патрётам пісаць латынскую літару "V", што азначала Victorie — перамога. І імгненна ўвесь горад, а затым і уся краіна пакрыліся літарай "V", напісанай крэйдай, вуглём, фарбай на тратуарах, сценках, лаўках, у метро... Тады ж нарадзілася і сімвалічная міга — паднятая рука з растапыранымі сярэднім і ўказальным пальцамі ў выглядзе гэтай літары.

Нашы хлапчукі, калі яны задаволны нечым, ці ім нешта спадабалася, гавораць: "Во" і паказваюць сціснуты кулак з паднятым вялікім пальцам. У старажытным Рыме такая міга значыла шмат іншага. Падчас гладыятарскіх баёў паднятым ці апушчаным вялікім пальца вырашаўся лёс пераможанага гладыятара. Калі ён замагўся слаба і большасць гледачоў апускала адтапыраны вялікі палец уніз, гэта аьазначала: "Дабі яго". Калі ж гладыятар праіграў бой, але паказаў высокае майстэрства і спадабаўся гладачам, якія маглі падняць вялікі палец уверх, што абазначала дараванне жыцця. Такім чынам, для беднага гладыятара падняты вялікі палец абазначаў "вельмі добра". У гэтым значэнні гэтая міга дайшла і да нашага часу.

Ёсць шмат іншых мігаў, напрыклад, злучаныя колцам вяліеі і ўеазальны пальцы, што значыць у амерыканцаў "О, кеу" — "Усё добра" і г.д.

Але, як відочна, мы пералічылі амаль абсалютную большасць мігаў, якія шырока прымяняюцца і ўбачылі, што імі можна выразіць толькі прасцейшыя азначэнні, калі не лічыць канешне мову глуханямых, там проста спецыяльна распрацаваная сістэма, якой трэба доўга вучыцца. Разам з тым сярэдні нармальны чалавек ужывае дзесятак-другі мігаў і яму дастаткова. Чаму? Таму, што ў яго распараджэнні ёсць такая магутная рэч, як слова. Словаў непараўнальна больш, чым мігаў. У беларускай мове каля 250000 словаў, калі не лічыць дыялектных, а з дыялектнымі будзе значна болей. Са словаў складаецца мова. Можна толькі ўявіць якім багатым павінна быць моўнае поле, калі з 250000 словаў можна атрымаць 250000! (фактарыял) словазлучэнняў. Гэта такая велізарная лічба, што, калі яе паспрабаваць запісаць, адны нулі трэба будзе лічыць некалькі дзён.

Слова называюць вопраткай думкі, але яно спектральна значна шырэй, гэта і вопратка культуры, і вопратка гісторыі, і вопратка ментальнасці народа. Пачынаючы нашу аповесць пра беларускае слова мы клічам у падарожжа па краіне беларускай мовы не толькі чытача, але і ўдумлівага даследчыка, пісьменніка, навукоўца і проста аматара. Мы ўпэўнены, што на гэтую тэму кожны мае, што сказаць.

*Паводле Зміцера Кабякова.*

## Абарог і абярог.

Гэта першае слова ў энцыклапедычным выданні "Этнаграфія Беларусі". Абазначае яно лёгкае збудаванне для захоўвання сена. Уяўляе сабой рухомую на чатырох слупах стрэшку, пакрытую саломай або дранкай. Зрэдку абарог знізу агароджвалі.



*Абарогі*



*Абярог-конік. 12-е стагоддзе. З даваенных фондаў Беларускага дзяржаўнага музея*

Здаўна бытаваў на Беларусі і абярог. Але гэтага слова няма ў энцыклапедыі. Затое, у энцыклапедыі ёсць слова "амулет" (лац. amuletum, ад араб.), рэч, якую забабонныя людзі насілі на целе і якой прыпісвалі магічныя ўласцівасці: здольнасць адводзіць хваробу, бяду, аберагаць ад варожых чараў. Дык вось беларуская назва гэтага самага амулета — "абярог". Ён павінен быў аберагаць гаспадара. Абарог аберагае сена ад дажджу, абярог аберагае чалавека ад усялякай нечысці. "Беражонага Бог беражэ", — беларуская прыказка. Словы "беражоны" і "беражэ" тога самага кораня што і "абярог". Вельмі блізкае па гучанню да іх і слова "берег". І яно гэтага ж кораня. І берег бярог чалавека. Ад чаго? Ад ракі. Берег не пускаў раку разлівацца. Берег быў той мяжоў і рысай, якая стрымлівала чалавека, ад неабдуманага кідання ў іншую стыхію. У кожнай хаце старажытнага беларуса жыла багіня Берагіня, якая пільнавала хату ад няшчасця. Кожны гаспадар моцна шанаваў Берагіню і дагаджаў ёй, каб не сышла, бо тады на хату маглі пасыпацца ўсялякія няшчасці. Сёняшнія беларусы, мабыць, скрыўдзілі сваіх Барагінь і яны пакінулі нашыя хаты і наш край.

*Станіслаў Суднік.*

**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.

*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
2313000, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.

Наклад 2000 асобнікаў. Замова № 2408